


# V FOR VENDETTA™

By **Alan Moore** and **David Lloyd**

Color artists:
**Steve Whitaker**
**Siobhan Dodds**
**David Lloyd**

Lettering:
**Steve Craddock**

**V FOR VENDETTA 9**
Published monthly by DC Comics Inc.,
666 Fifth Avenue, New York, N.Y. 10103.

Printed in Canada.
DC Comics Inc.
A Warner Communications Company.


7 ЛІСТАПАДА 1998 ГОДА.
...У ДАДЗЕНЫМ ВЫПАДКУ МЫ ВІДАВОЧНА МАЕМ СПРАВУ З КІМСЬЦІ, ХТО НЕ НАЛЕЖЫЦЬ ЛІКУ ЗВЫЧАЙНЫХ ЛЮДЗЕЙ, НІ ФІЗІЧНА, НІ ПСІХІЧНА...
...І «ПСІХІЧНАЯ» ЧАСТКА ТУРБУЕ МЯНЕ БОЛЬШ ЗА ЎСЁ...
БО, КАЛІ Я ХАЧУ РАСКРЫЦЬ ГЭТУЮ СПРАВУ... А Я ХАЧУ... МНЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА ЗАБРАЦЦА Ў ЯГО ГАЛАВУ...
...КАБ ЗРАЗУМЕЦЬ ЯГО ЛОГІКУ...
І ГЭТА МЯНЕ ПУЖАЕ.
МАЕ СЛОВЫ.
Я СКАЗАЎ ГЭТА ГОД НАЗАД, І НІЧОГА З ТЫХ ЧАСОЎ НЕ ЗМЯНІЛАСЯ.
Я ЎСЁ ЯШЧЭ БАЮСЯ.
Я ТАК МАЛА ВЕДАЮ, АЛЕ НЕ МОГ НІКОГА СПЫТАЦЬ, КАБ НЕ ВЫКЛІКАЦЬ ПАДАЗРОНАЎ.
ДЫЭТІЛАМІД ЛІЗЕРГІНАВАЙ КІСЛАТЫ. СТАНДАРТНАЯ ДОЗА – 200 МІКРАГРАМ, АЛЕ ЯК ЯЕ АДМЕРЫЦЬ?
КАЖУЦЬ, ШТО НАВАТ МІНІМАЛЬНАЯ КОЛЬКАСЦЬ МОЖА ЗМЯНІЦЬ УСЁ.
НЯБАЧНЫ СЛЕД.
ГЛАВА 4
VЫЯВЫ


НІКОЛІ РАНЕЙ НЕ БАЧЫЎ ЛАГЕРОЎ, ТОЛЬКІ НА ФАТАЗДЫМКАХ. ДЫК ВОСЬ ЁН, САРЦІР, У ЯКІМ МЫ ЎТАПІЛІ ЎСІХ ГЭТЫХ ЛЮДЗЕЙ...
ЧАТЫРЫ ТАБЛЕТКІ. ЦІКАВА, ГЭТАГА ДАСТАТКОВА? ЦІ ГЭТА ЗАНАДТА?
НУ Й ДОБРА.
ЛЯЖАЦЬ НА ЯЗЫКУ, ЯК МАЛЕНЬКІЯ КАВАЛАЧКІ МЫЛА... ГУСТ ФАЛЬГІ. ДЗЕСЬЦІ Ў ЖЫВАЦЕ ПУХВІРОМ УЗРАСТАЕ ЗМРОЧНАЕ ПРАДЧУВАННЕ.
Я ГЛЫТАЮ, АДЧУВАЮЧЫ СЯБЕ ТАК, НІБЫТА НЕШТА ВЫПУСКАЮ.
НУ ВОСЬ.
РАМЯНІ ЗАШПІЛЕНЫ. ПАЙШОЎ АДВАРОТНЫ АДЛІК. З КІШЭЧНІКУ – У КРОЎ І Ў МОЗГ. ЗАРАЗ УЗЛЯЦІМ, АЛЕ Ж Я НІКОЛІ РАНЕЙ НЕ ЛЕТАЎ. ШТО СА МНОЙ БУДЗЕ?
НІЧОГА. УСЁ ЯШЧЭ НІЧОГА. ЛЕПШ АГЛЯДЗЕЦЦА ТУТ, ПАКУЛЬ СВЕТЛА.
ГЭТА, НАПЭЎНА, ПЕЧЫ. ПЕЧЫ ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ. ЧАЛАВЕЧЫЯ ПЕЧЫ...
НЕ, БЕССЭНСОЎНА: НЕ МАГУ ПРЫМУСІЦЬ УСЁ ПАДАВАЦЦА РЭАЛЬНЫМ. КАЛІ Б Я ВЕДАЎ, УСТУПІЎ БЫ Ў ПАРТЫЮ?
МАГЧЫМА. УСЁ РОЎНА НІЧОГА ЛЕПШАГА НЕ БЫЛО.
МЫ НЕ МАГЛІ ДАЗВОЛІЦЬ ПРАЦЯГНУЦЦА ХАОСУ ПАСЛЯ ВАЙНЫ. ЛЮБЫ ЛАД ЛЕПШ, ЧЫМ ХАОС. НАМ БЫЎ ПАТРЭБНЫ ПАРАДАК...
А МАГЧЫМА, ПАСЛЯ ТАГО, ЯК Я СТРАЦІЎ СІНЦЮ І ПОЛА, ЗНІК І СЭНС, І Я ХАЦЕЎ...
ХАЦЕЎ...
БУЭЭЭ...
НЯ ТРЭБА БЫЛО ГЭТАГА РАБІЦЬ.
НЕ ТРЭБА БЫЛО ПРЫМАЦЬ ЛСД.
НЕ ТУТ.



АЛЕ Я ХАЦЕЎ ВЕДАЦЬ... ХАЦЕЎ ВЕДАЦЬ, ЯК ГЭТА – БЫЦЬ ІМ...
УСЁ ГЭТА МЕСЦА... КАЛІ Б ВЫБРАЦЦА ЗА ПЛОТ І ПАЧАКАЦЬ, ПАКУЛЬ МНЕ СТАНЕ ЛЕПШ...
НЯМА ПРАБЛЕМАЎ, БРАМА ВУНЬ ТАМ...
Я НЕ МАГУ, НЕ МАГУ ПРАЙСЦІ ТАК ДАЛЁКА, У МЯНЕ БЫЦЦАМ ХАЛАДЗЕЦ ЗАМЕСТ НОГ, УСЁ НАВОКАЛ ДРЫНКАЕ...
ДРЫЫЫЫЫЫЫЫЫННННКАЕ...
ГЭТА НАРКОТЫК. Я ПАВІНЕН ПАМЯТАЦЬ, ШТО ГЭТА НАРКОТЫК, АЛЕ...
КАЖУЦЬ, ЛСД ТОЛЬКІ ПАШЫРАЕ ТОЕ, ШТО ЎЖО ЁСЦЬ УНУТРЫ ЦЯБЕ. БОЖА, НАВОШТА Я ПРЫНЯЎ ЯГО ЗАРАЗ, КАЛІ І ТАК ЗУСІМ ЗАБЛЫТАЎСЯ?
Я ВЫМУШАНЫ ЗАЙМАЦЦА СПРАВАЙ, ЯКАЯ МУЧЫЦЬ МЯНЕ, АЛЕ НЕ МАГУ НІКОМУ РАСПАВЕСЦЬ ПРА ГЭТА, Я ТАКІ АДЗІНОКІ...
ТАКІ АДЗІНОКІ...
ОХ...
ГЛЯДЗІЦЕ...
ГЛЯДЗІЦЕ, ЯНЫ ЎСМІХАЮЦЦА. ЯНЫ ШЧАСЛІВЫ, БОЖА, СТОЛЬКІ ЧАСУ...
Я ЗАБЫЎ, ЯКІМ НАСЫЧАНЫМ БЫЎ КОЛЕР ІХ СКУРЫ, ТЫСЯЧЫ РОЗНЫХ САРТОЎ КАВЫ...
І ДЗЯЎЧЫН, ЯКІЯ АБДЫМАЛІСЯ Ў НАТОЎПУ НА ДЭМАНСТРАЦЫЯХ, І МУЖЧЫН З ТАКІМІ МЯККІМІ, ТАКІМІ ПЯШЧОТНЫМІ ГАЛАСАМІ...


БОЖА, ЯК МНЕ ВАС НЕ ХАПАЕ!
МНЕ НЕ ХАПАЕ ВАШЫХ ГАЛАСОЎ, ВАШАЙ ХАДЫ, ВЫШЫХ СНЕДАННЯЎ, ВЫШЫХ УБОРАЎ, ВЫШЫХ РУЖОВЫХ ВАЛАСОЎ.
СЯБРЫ МАЕ... ТАМ, НА КАРНАВАЛАХ, НА ГЕЙ-ПАРАДАХ.
СКАЖЫЦЕ, ШТО ВЫ БАЧЫЦЕ ЧАЛАВЕКА ПАД МАЁЙ ФОРМАЙ. КАЛІ ЛАСКА, СКАЖЫЦЕ, ШТО РАЗУМЕЕЦЕ МЯНЕ. Я...
СТОЙЦЕ...
СТОЙЦЕ, КУДЫ ВЫ?
КАЛІ ЛАСКА...
КААЛІ ЛАСКА, НЕ ПАКІДАЙЦЕ МЯНЕ...
МЫ ТАК ДРЭННА АБЫЙШЛІСЯ З ВАМІ, І СТРАШЭННЫЯ РЭЧЫ, ЯКІЯ МЫ ДРУКАВАЛІ, РАБІЛІ І КАЗАЛІ... АЛЕ, КАЛІ ЛАСКА, КАЛІ ЛАСКА, НЕ ПАГАРДЖАЙЦЕ НА НАС. МЫ БЫЛІ ДУРНЯМІ, МЫ БЫЛІ ЯК ДЗЕЦІ, МЫ НЕ ВЕДАЛІ...
ВЯРНІЦЕСЯ, О, КАЛІ ЛАСКА, ВЯРНІЦЕСЯ!
Я ЛЮБЛЮ ВАС.
О-О...
О-ХО-ХО-ХО-ХО...
Я ЛЮБЛЮ ВАС. Я...


ОЙ, ЭРЫК, НУ І ВЫГЛЯД У ЦЯБЕ Ў ГЭТАЙ ПІЖАМЕ. ВЯРТАЙСЯ Ў ЛОЖАК. Я ЗАРАЗ ПРЫГАТУЮ ЯЕШНЮ З ВЯНДЛІНАЙ, ТАБЕ ТРЭБА ПАЕСЦІ.
ДЭЛІЯ?
ДЭЛІЯ, Я ЗУСІМ ЗАБЛЫТАЎСЯ. КАЛІ Б Я ТОЛЬКІ МОГ УСЁ ВЫПРАВІЦЬ...
ШТО ЎСЁ?
УСЁ, ШТО Я РАБІЎ. УСЁ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ СА МНОЙ...
Я ПАМЯТАЮ, ШТО ПРЫЙШОЎ СЮДЫ, КАБ ШТОСЬЦІ ВЫСВЯТЛІЦЬ. ШТОСЬЦІ ВЕЛЬМІ ВАЖНАЕ ДЛЯ ЎСІХ... Я ЗБІРАЎСЯ ПРЫНЯЦЬ ПРЭПАРАТ...
ПРЭПАРАТ? НУ, ДЛЯ ГЭТАГА Я І ТУТ. ЗАКАТАЙ, КАЛІ ЛАСКА, РУКАЎ.
А ПРА СВАЕ ДУХОЎНЫЯ ШУКАННІ ПАСПРАБУЙ АБМЕРКАВАЦЬ З ТОНІ ЛІЛЛІМЕНАМ, ЁН НАШ ПАДРЭ.
ЛІЛЛІМЕН? ЁН ЖА ЕПІСКАП?
НЕ. ПРОСТА ПЕШКА.
А ЦЯПЕР СКАЖЫЦЕ, КАЛІ ВЫ ПЕРАСТАЛІ ВЕРЫЦЬ У БОГА?
АЛЕ Я НІКОЛІ НЕ КАЗАЎ...
НЕЧАГА З ІМ ЦАЦКАЦЦА! ОХ УЖ ГЭТЫ ПАПЫ. НІЧОГА ТАКОГА З ІМ НЯМА, ГЛЫТОЧАК ЗЭНДЛІКАЎКІ, І ЎСЁ ПРОЙДЗЕ, АГА?
ХММ, МОЖА БЫЦЬ, ВЫ І ПРАВЫ. НА МОЙ ДОСВЕД, АТРУТА ВЫРАШАЕ БОЛЬШАСЦЬ ЖЫЦЦЁВЫХ ПРАБЛЕМАЎ...
Я З ІМ СКОНЧЫЛА, МІСТАР ПРАТЭРА. ЁН ВАШ.
ШТО? ДЭЛІЯ, ЯНЫ МЯНЕ ЎВОДЗЯЦЬ! НЕ ДАЗВАЛЯЙ ІМ...
ПАЙШОЎ, ПРЫЯЦЕЛЬ. НЕ ПРЫМУШАЙ МЯНЕ ЗЛАВАЦЦА.
ДЭЛІЯ?
ДЭЛІЯ, А ЯК ЖА ЯЕШНЯ?
...IN NOMINI PATRI, ET FILII, ET SPIRITUS SANCTI...
ДЭЛІЯ, КАЛІ ЛАСКА, ТЫ ЖА НЕ ТАКАЯ. Я ВЕДАЮ, ШТО НЕ ТАКАЯ. У ЦЯБЕ ЁСЦЬ СЭРЦА. КАЛІ ЛАСКА, НЕ ДАЗВАЛЯЙ ІМ РАБІЦЬ ГЭТА.
ДЭЛІЯ, ТЫ ЧУЕШ? Я...
О НЕ...


ОХХХХ...
ЯК?
ЯК Я ТРАПІЎ СЮДЫ, У ГЭТАЕ СМЯРДЗЮЧАЕ МЕСЦА? У МАЮ ПРАЦУ, У МАЁ ЖЫЦЦЁ, У МАЁ СУМЛЕННЕ, У МАЮ ТУРМУ...
АДКАЗЫ ТУТ, ЯНЫ НАПІСАНЫ НА ПАДЛОЗЕ СПЕЦЫЯЛЬНА ДЛЯ МЯНЕ, АЛЕ Я НЕ РАЗУМЕЮ ІХ.
ТАК, КАНЕШНЕ, ГЭТА ТОЛЬКІ НАРКОТЫК, АЛЕ...
АЛЕ ЯГО ТАКСАМА СКОРМЛІВАЛІ НАРКОТЫКАМІ І ЗАЧЫНЯЛІ ТУТ, І ЁН УСЁ Ж ТАКІ ШТОСЬЦІ ЗРАЗУМЕЎ.
ЧАМУ Я НЕ МАГУ ЗРАЗУМЕЦЬ? Я ГЛЯДЖУ НА ГЭТЫ ВАР'ЯЦКІ ЎЗОР, І ДЗЕ Ж АДКАЗЫ?
ХТО ЗАСАДЗІЎ МЯНЕ СЮДЫ? ХТО МЯНЕ ТУТ ТРЫМАЕ?
ХТО МОЖА ВЫЗВАЛІЦЬ? ХТО КАНТРАЛЮЕ МАЁ ЖЫЦЦЁ, КАЛІ НЕ...
Я?
Я...
Я ВОЛЬНЫ...
ВООООО-ЛЬНЫЫЫ!


ВЕСЯЛІЦЦА, ВЫСКОКВАЦЬ, ВЫПЛЁЎВАЦЬ ВІНУ, ШТО ВЫСМАКТАЛА МЯНЕ, АДЧУВАЦЬ СЯБЕ ВЕЧНЫМ, АДЧУВАЦЬ СЯБЕ ЛЕГКАДУМНЫМ...
ТАК АДЧУВАЎ ЁН? ТАКУЮ ВЕЛІЧ, ТАКУЮ ЎСЕМАГУТНАСЦЬ...
ГЭТА ПРАСВЯТЛЕННЕ.
LA VOIE...
LA VERITE...
LA VIE.
70mp


7 ЛІСТАПАДА 1998 ГОДА. ГАЛЕРЭЯ ЦЕНЯЎ.
«КОЖНЫ РАЗ, КАЛІ Я КАЖУ «БЫВАЙ»...
ВЕДАЕШ, КАЛІ СЛУХАЕШ ГЭТЫ АЎТАМАТ, ЗДАЕЦЦА, ШТО ТЫ СІДЗІШ У КАФЭ НА БЕРАЗЕ МОРА Ў ДАЖДЖЛІВЫ ВЫХАДНЫ.
ЗБІРАЕШСЯ ШТОСЬЦІ ЗРАБІЦЬ ЦІ ХОЧАШ ПЕРАСЯДЗЕЦЬ ХАОС ТУТ, УНІЗЕ?
«Я БЫЦЦАМ ПАМІРАЮ...»
ХАОС РАЗРАСТАЕЦЦА ЎНУТРЫ НАС, ІВІ. І ШТО ТЫЧЫЦЦА МЯНЕ, ТО, ЗДАЕЦЦА, НАДЫШОЎ ЧАС У НЕЧЫМ НАВЕСЦІ ПАРАДАК.
НУ, І ШТО ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ? ЗБІРАЕМСЯ МЫ ШТО-НЕБУДЗЬ РАБІЦЬ ЦІ НЕ?
«КОЖНЫ РАЗ, КАЛІ Я КАЖУ «БЫВАЙ»...»
РАБІ, ШТО ПАЖАДАЕШ, ІВІ. ВОСЬ І ЎВЕСЬ ЗАКОН...
ВЕДАЕШ ШТО? МАЛА ЦЫТАВАЦЬ АЛІСТАРА КРОЎЛІ. ГЭТАГА НЕДАСТАТКОВА. ГЭТА НЕ АДКАЗ НА МАЁ ПЫТАННЕ.
Я ХАЧУ ВЕДАЦЬ, ЧАГО ХОЧАШ ТЫ, V, ХАЧУ ВЕДАЦЬ, ЯКІМІ БУДУЦЬ ТВАЕ ПАЖАДАННІ.
«НЕ ВЕДАЮ ЧАМУ...»
ХОЧАШ ДАВЕДАЦЦА ПРА МАЕ ПАЖАДАННІ? ШТО Ж, ДОБРА...
ДОБРА...
«НЯЎЖО БАГАМ, ЯКІЯ ВЕДАЮЦЬ УСЁ, Я НАСТОЛЬКІ АБЫЯКАВЫ...»
ХАДЗІ СЮДЫ!
«...ШТО ЯНЫ ДАЗВАЛЯЮЦЬ ТАБЕ ЎЙСЦІ?»
ГЛАВА 5
VОЛЯ


ЧАМУ ДА КОЖНАГА ПРЫКЛАДА ТРЭБА ЛАДЗІЦЬ СПЕКТАКЛЬ? Я ЗАПЫТАЛАСЯ НА ПРОСТАЕ ПЫТАННЕ, А АДЧУВАЮ СЯБЕ АЛІСАЙ У КРАІНЕ ЦУДАЎ.
Я ШМАТ ЧЫТАЛА. Я СТАЛА РАЗУМНЕЙ. ЧАМУ Б ТАБЕ НЕ ПАСПРАБАВАЦЬ ПРОСТА ПАТЛУМАЧЫЦЬ?
ТЫ ПРОСІШ ВЕДАЎ, ІВІ, ІХ Я І ХАЧУ ТАБЕ ПЕРАДАЦЬ.
ВЕДЫ НЕАБХОДНЫ, ЯК ПАВЕТРА. І, ЯК ПАВЕТРА, НІХТО НЕ МОЖА АДМАЎЛЯЦЬ ЯГО.
V, НУ ДАВАЙ...
ТЫ ЗАЎСЁДЫ НАПУСКАЕШ ТАЕМНАСЦЬ: ТЫ САМ, ГЭТА МЕСЦА, ТВАЕ ПЛАНЫ... КАЛІ ВЕДЫ – ПАВЕТРА, ТЫ ПАЗБАЎЛЯЕШ МЯНЕ ПРАВА ДЫХАЦЬ!
НААДВАРОТ – Я ВУЧУ ЦЯБЕ ДАХАЦЬ.
СЮДЫ.
ГЛЯДЗІ, ТУТ ПАВЕТРА ВЕДАЎ СКАНДЭНСІРАВАЎСЯ Ў ВАДКУЮ ЭЛЕКТРЫЧНАСЦЬ.
УСЕ ВЕДЫ СВЕТА САБРАНЫЯ ТУТ. ВЕДЫ, ДАСТУПНЫЯ ЎСІМ, НЕПЕРАМОЖНЫЯ...
...І ХУТКА Я АДКРЫЮ КРЫНІЦУ ВЕДАЎ. УСЕ ЗМОГУЦЬ НАПІЦЦА.
ВЕДАЕШ, МНЕ ЗДАЕЦЦА, З ГЭТЫМ КАМПУТАРАМ ЗМАГЛА БЫ ПРАЦАВАЦЬ НАВАТ Я. ЁН САПРАЎДЫ ЗЛУЧАНЫ З ЛЁСАМ?
А ЛЁС ЗЛУЧАНЫ З УСІМ. ДЛЯ СЛУЖБОЎЦАЎ КОЖНЫ ФАЙЛ І ЁСЦЬ РЭАЛЬНАСЦЬ.
МЫ МЯНЯЕМ ПЕРФАКАРТКУ – І СТВАРАЕМ НОВУЮ РЭАЛЬНАСЦЬ.
СЮДЫ.
ОЙ. А ШТО Ў ГЭТЫХ ПАКОЯХ АГУЛЬНАГА?
У ІХ АГУЛЬНАЕ ЎСЁ.
ТЫ ПАВІННА РАЗУМЕЦЬ, ШТО ЎСПАДКОЎВАЕШ НЕ ТОЛЬКІ ВЕДЫ.
АЛЕ ЯШЧЭ І АДВАГУ І ЎСТОЙЛІВАСЦЬ, ЯК У ТОЙ, КАГО ТЫ ЎСПАМІНАЕМ ТУТ.
І ЛЮБОЎ.
АБАВЯЗКОВА, АБАВЯЗКОВА ЛЮБОЎ.


У БУРЛЕННІ МЕЦЯЖУ ТАК ПРОСТА ЗАБЫЦЬ ПРА ТОЕ, ЗА ШТО МЫ ЗМАГАЕМСЯ...
ЗАБЫЦЬ ПРА ТАНЦЫ, НАДУШАНЫЯ ХУСТКІ. ПРА ЗРЭНКІ, ШТО ПАШЫРЫЛІСЯ АД ВІНА І ЮРЛІВАСЦІ.
АНАРХІЯ ВІТАЕ ГРУКАТ ВЫБУХАЎ І СТРЭЛАЎ...
АЛЕ, МАГЧЫМА, ЯШЧЭ МАЦНЕЙ ЯНА ПАВІННА ЛЮБІЦЬ ДАЛІКАТНУЮ МУЗЫКУ.
...АЛЕ... ЯК ДЗІЎНА... ТАКІЯ ЗМЕНЫ... З МАЖОРА НА МІНОР...
НЕ, ГЭТАГА Я ПАКУЛЬ ЗРАЗУМЕЦЬ НЕ МАГУ.
А ТЫ ПАСПРАБУЙ, ІВІ. КАЛІ МЫ НАВУЧЫЛІСЯ РАЗУМЕЦЬ МУЗЫКУ, МЫ ПАЧЫНАЕМ ЧУЦЬ МУЗЫКУ ЖЫЦЦЯ, АД ПЕРШЫХ БРАВУРНЫХ АКОРДАЎ...
ДА ЗАКЛЮЧНЫХ МІНОРНЫХ.
ДАЙ-КА МНЕ ЗІРНУЦЬ...
ОЙ, ЗРАЗУМЕЛА. ГЭТЫЯ ТРЫ ПАКОІ НАВЕРСЕ ЗЛУЧАЮЦЦА З ТЫМ, ДЗЕ СТАІЦЬ ПІАНІНА.
ДАКЛАДНА. УЯВІ, ШТО МЫ ЗНАХОДЗІМСЯ Ў ТВАІМ МАЗГУ. У КОЖНАЙ ЧАСТКІ САВЁ ПРЫЗНАЧЭННЕ: ВЕДЫ, ЗАДАВАЛЬНЕННЕ, ТВОРЧАСЦЬ...
ЗАСТАЕЦЦА ТОЛЬКІ ЎСТАЛЯВАЦЬ СУАДНОСНЫЯ СУВЯЗІ.
НАВЕРСЕ РАЗМЕШЧАНЫЯ ВЫСШЫЯ ФУНКЦЫІ, ТАКІЯ ЯК РОЗУМ, ЛЮБОЎ, КУЛЬТУРА...
А ЎНІЗЕ Ў ГАЛЕРЭІ ЦЕНЯЎ ЁСЦЬ ВОЧЫ.
ПАЧАКАЙ, Я ХАЧУ ЗРАЗУМЕЦЬ. НА ГЭТЫМ УЗРОЎНІ МОЙ ПАКОЙ. ПА ІНШЫМ УСХОДАМ, ДЗЕСЬЦІ... ТАМ? ДАКЛАДНА?
АБСАЛЮТНА.
АЛЕ ПОЙДЗЕМ ДАЛЕЙ, НЕШТА ТЫ ЯШЧЭ НЕ БАЧЫЛА...


НЕ ШМАТ КАМУ ДАВОДЗІЦЦА ВЫВУЧЫЦЬ УЛАСНЫЯ ЗРОКАВЫЯ НЕРВЫ...
V... УСЕ ГЭТЫЯ ТЭЛЕВІЗАРЫ... ЯНЫ ПРАЦУЮЦЬ. Я ДУМАЛА, ТЫ АДКЛЮЧЫЎ ТЭЛЕБАЧАННЕ?
О НЕ. КАМЕРЫ НАЗІРАННЯ ЎСЁ ЯШЧЭ ПРАЦУЮЦЬ, НЕ ПРАЦУЮЦЬ ПРЫЁМНІКІ І ПЕРАДАТЧЫКІ НАШЫХ КАНКУРЭНТАЎ.
А ВОСЬ МАЕ – ЯК РАЗ НААДВАРОТ, ПРАЦУЮЦЬ БЕЗДАКОРНА.
ЗРАЗУМЕЛА, ПАКОЛЬКІ ДЗЯРЖАЎНАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ ВЫКЛЮЧАНА, Я НЕ МАГУ ГЛЯДЗЕЦЬ НІЧОГА, АКРАМЯ БЯСКОНЦЫХ МЫЛЬНЫХ ОПЕР З ЗОНЫ БУНТАЎ, ДЫ ДРЭННЫХ ФІЛЬМАХ ЖАХА.
ЧАСАМ Я НУДЖУСЯ ПА ШТОРМУ САКСОНУ.
ТАМ ДЫЯЛОГІ БЫЛІ ЛЕПШЫЯ.
А-АЛЕ... ТЫ Ж МОЖАШ БАЧЫЦЬ АДСЮЛЬ УВЕСЬ ЛОНДАН...
НАТУРАЛЬНА. ГЭТА ВЕРШЫНЯ ПЕРАКУЛЬНУТАЙ ГАРЫ. КАБ ДАБРАЦЦА ДА ЯЕ, ТРЭБА ІСЦІ ЎНІЗ, АЛЕ, КАЛІ ЎЖО ДАБЯРЭШСЯ, АДКРЫЕЦЦА КРАЯВІД НА ШМАТ КІЛАМЕТРАЎ ВАКОЛ.
ПОЙДЗЕМ...
ДРЭННА, КАЛІ ТЭЛЕБАЧАННЯ ЗАНАДТА ШМАТ, А Ў ЦЯБЕ ДА ТАГО Ж ЁСЦЬ ХАТНЯЕ ЗАДАННЕ.
ТУТ ТЫ ЗНОЙДЗЕШ КНІГІ І ЎСЁ НЕАБХОДНАЕ, КАБ ДАВЕДАЦЦА, ЯК РАБІЦЬ ВЫБУХОВЫЯ РЭЧЫВЫ З КАВЫ ЦІ ЯК ВЫРАБЛЯЦЬ ГАЛЮЦЫНАГЕНЫ, ТАННЫЯ, ЯК ВАДА.
ВЫКАРЫСТОЎВАЙ ІХ З РОЗУМАМ, КАЛІ НАОГУЛ ВЫРАШЫШ ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ.
У АДРОЗНЕННІ АД ТЭЛЕБАЧАННЯ, НАВУКІ ШМАТ НЕ БЫВАЕ, НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ВІДАВОЧНЫ ПЕРАГІН З ЯДЗЕРНАЙ ЗБРОЯЙ.
ДЗЯКУЮЧЫ НАВУКЕ ІДЭІ ПРАРАСТАЮЦЬ НА ГРАДАХ ТЭОРЫІ І ПРАКТЫКІ... АЛЕ МЫ, ЯК САДОЎНІКІ, ПАВІННЫ БЫЦЬ АСЦЯРОЖНЫМІ...
БО З НЕКАТОРАГА НАСЕННЯ ВЫРАСТАЕ ПУСТАЗЕЛЛЕ...
...І КВЕТКІ З САМЫМ ДУРМАНЛІВЫМ ПАХАМ ЧАСЦЯКОМ САМЫЯ НЕБЯСПЕЧНЫЯ.


О-О, ПАКОЙ РУЖ.
ВЕДАЕШ, У ГЭТЫМ МЕСЦЫ Я ТАК ДЗІЎНА СЯБЕ АДЧУВАЮ. ЯК У ТЫМ АПОВЯДЗЕ РЭЯ БРЭДБЕРЫ, ЯКІ ТЫ ЧЫТАЎ МНЕ, ПРА ПОЛЕ, ДЗЕ КОЖНАЕ КАЛОССЕ - ЧЫЁСЬ ЖЫЦЦЁ...
АЛЕ Ж ТУТ ЦЯБЕ РУЖЫ НЕ ДЛЯ ЎСІХ, САПРАЎДЫ? ТОЛЬКІ ДЛЯ АСАБЛІВЫХ ЛЮДЗЕЙ...
ЁСЦЬ ТУТ РУЖА ДЛЯ ЛІДАРА? ДЛЯ МІСТАРА СЬЮЗЭНА?
НЕ, НЕ, НЕ ТУТ. ДЛЯ ЯГО Я ВЫРАСЦІЎ ЗУСІМ АСАБЛІВУЮ РУЖУ.
ПОЙДЗЕМ, ДАВАЙ ПАКІНЕМ ГЭТУ ДУХМЯНУЮ АЛЬТАНКУ. СПАДЗЯЮСЯ, ТЫ ПРА ЯЕ ПАКЛАПОЦІШСЯ.
ТЫ ДАЗВОЛІШ МНЕ ДАГЛЯДАЦЬ ЗА РУЖАМІ? ВЫДАТНА. Я...
О-О, МЫ ЗНОЎ НА ЎСХОДАХ. СПУСЦІМСЯ ЯШЧЭ НІЖЭЙ?
ТАК. ТЫ ПАВІННА ВЕДАЦЬ ГЭТА МЕСЦА ЎЗДОЎЖ І ЎПОПЕРАК.
ШТО НА НАСТУПНЫМ ПАВЕРСЕ?
НУ, ГЭТА НЕ ЗУСІМ ПАВЕРХ, ХУТЧЭЙ МЕЗАНІН. ТУТ ЗАХОЎВАЮЦЦА РЭЧЫ, ЯКІЯ ХУТКА СПАТРЭБЯЦЦА НАМ ЯШЧЭ НІЖЭЙ.
ЗАСТАЛОСЯ СПУСЦІЦЦА ЎСЯГО НА АДЗІН ПАВЕРХ. Я БУДУ ТАБЕ ВЕЛЬМІ ЎДЗЯЧНЫ, КАЛІ ТЫ ВОЗЬМЕШ АДЗІН КЛУНАК... АЛЕ БУДЗЬ АСЦЯРОЖНА.
КАНЕШНЕ. А ШТО Ў ІХ?
ГЕЛІГНІТ.
ГЕЛІГНІТ? О БОЖА.
V, Я НЕ БУДУ ДАПАМАГАЦЬ ЗАБІВАЦЬ. ШТО ТЫ ЗБІРАЕШСЯ З ІМ РАБІЦЬ?
ПАЗБАВІЦЦА АД ЯГО.
У РЭШЦЕ РЭШТ, ЯК ТЫ ДАКЛАДНА ЗАЎВАЖЫЛА, ТАБЕ ЁН НЕ СПАТРЭБІЦЦА.


У АНАРХІІ ДВА ТВАРЫ – СТВАРАЛЬНІКА І РАЗБУРАЛЬНІКА.
РАЗБУРАЛЬНІКІ ЗНІШЧАЮЦЬ ІМПЕРЫІ, ПЕРАЎТВАРАЮЧЫ ІХ У КУПЫ КАМЕННЯЎ, А СТВАРАЛЬНІКІ ПОТЫМ БУДУЮЦЬ З ІХ НОВЫ, ЛЕПШЫ СВЕТ.
КАЛІ КАМЕННЯ ДАСТАТКОВА, БОЛЬШ РАЗБУРАЦЬ НЕ ТРЭБА.
ДАЛОЎ ЖА ЎСЮ ВЫБУХОЎКУ...
ШТО Ж, НЯХАЙ ЗАГІНУЦЬ РАЗБУРАЛЬНІКІ. ІМ НЕ БУДЗЕ МЕСЦА Ў НАШАМ ЛЕПШЫМ СВЕЦЕ.
АЛЕ ДАВАЙЦЕ ПАДЫМЕМ КУФЛІ ЗА НАШЫХ БАМБІСТАЎ, ЗА ГЭТЫХ ВЫБЛЯДКАЎ, НЕЛЮБІМЫХ І НЕПРАШЧОНЫХ.
ВЫП'ЕМ ЗА ІХ ЗДАРОЎЕ.
МЫ БОЛЬШ НЕ СУСТРЭНІМСЯ З ІМІ.
ОЙ, ОЙ, ЯКАЯ ПРЫГАЖОСЦЬ! V... ДЗЕ ТЫ ЎЗЯЎ...
ЦІШЭЙ, КАЛІ ЛАСКА... БУДЗЬ ПАВАЖЛІВАЙ.
ДЫК ДАВАЙ ДЗЕЙНІЧАЦЬ РАЗУМНА. ПАКЛАДЗЕМ ГЕЛІГНІТ ЗА ЛІЛЕЯМІ...
ОЙ, V, ЯКІЯ КВЕТКІ...
РЭЙКІ... НА САМОЙ СПРАВЕ ЯНІ Ж НЕ ЗАЛАТЫЯ? МНЕ ПАДАБАЕЦЦА, ЯК ЯНЫ ПАФАРБАВАНЫЯ...
БЫЦЦАМ ПРЫГОЖАЯ СТАРАЯ ЛАДДЗЯ.
НАВОШТА ЯНА, V?
V?
V, Я СПЫТАЛА, НАВОШТА ЯНА?
V?



V, ТЫ Ж САМ КАЗАЎ, ШТО ХОЧАШ ПАДЗЯЛІЦЦА ВЕДАМІ, А ЗАРАЗ УХОДЗІШ І НЕ АДКАЗВАЕШ!
ТЫ НАОГУЛ НІ НА ШТО НЕ АДКАЗАЎ. Я Ж СПЫТАЛА, ШТО ТЫ ЗБІРАЕШСЯ РАБІЦЬ...
ТЫ СКАЗАЛА, ШТО ХОЧАШ ДАВЕДАЦЦА ПРА МАЮ ВОЛЮ. Я ЯЕ АДКРЫЎ.
ШТО?
V, Я СТАМІЛАСЯ АД ГУЛЬНЯЎ У ЗАГАДКІ. Я ПРОСТА ХАЧУ ДАВЕДАЦЦА, ЦІ ЗБІРАЕШСЯ ТЫ КУДЫСЬЦІ ІСЦІ ЦІ НЕ?
НЕ. Я ЗАСТАЮСЯ. Я ЧАКАЮ.
ЧАКАЕШ? ЧАГО?
НЕ ЧАГО, А КАГО.
НУ ДОБРА! ДОБРА, КАГО ТЫ ЧАКАЕШ?
Я ЧАКАЮ ЧАЛАВЕКА.
ГЭТА ЯШЧЭ АДНА...
ТАК І ЁСЦЬ, ТАК? ЯШЧЭ АДНА ПРАКЛЯТАЯ ЦЫТАТА! Я ЧУЛА ГЭТУЮ ПЕСНЮ.
V, Я ГЭТАГА ТРЫВАЦЬ НЕ МАГУ. ЛЮБАЯ РАЗМОВА ПЕРАЎТВАРАЕЦЦА Ў РАЗГАДВАННЕ СКРЫЖАВАНАК.
СЛУХАЙ, САПРАЎДЫ, КАЛІ ТЫ ХОЧАШ ШТОСЬЦІ СКАЗАЦЬ, КАЛІ Я ШТОСЬЦІ ПАВІННА ВЕДАЦЬ...
НУ НЯЎЖО ЎСЁ ТАК ДРЭННА, ШТО ТЫ НЕ МОЖАШ СКАЗАЦЬ МНЕ ГЭТА ПРАМА?
V? ТЫ СЛУХАЕШ?
ВЕДАЕШ, Я СУР'ЁЗНА.
З МЯНЕ ХОПІЦЬ ЗАГАДАК. Я ХАЧУ ПРОСТА ПЕРАВЯРНУЦЬ СТАРОНКУ ЎВЕРХ НАГАМІ І ПРАЧЫТАЦЬ АДКАЗЫ.
НУ?
V, Я ЧАКАЮ.
БЫВАЙ, ЛЮБОЎ МАЯ
ШТО ТЫ ХОЧАШ СКАЗАЦЬ?


9 ЛІСТАПАДА 1998-ГА. 14.30. ДЛЯ СУПАКОЙВАННЯ МАСАЎ ЗАПЛАНАВАНА ПУБЛІЧНАЕ ВЫСТУПЛЕННЕ ЛІДАРА.
ЯНЫ Ж ГЭТА НЕ СУР'ЁЗНА, ТАК?
ПА МАІХ ДАДЗЕНЫХ, СТАРЫК СЬЮЗЕН АБСАЛЮТНА ЗВАР'ЯЦЕЎ! НЯЎЖО ЯНЫ ДУМАЮЦЬ, ШТО ЯГО ВЫГЛЯД МОЖА СУПАКОІЦЬ МАСЫ?
ЗАСТАЛІСЯ ТОЛЬКІ З МЯККІМ НАЧЫННЕМ, ЧОРТ.
НУ КАНЕШНЕ, УСІМ УЖО ШМАТ ГАДОЎ ЗРАЗУМЕЛА, ШТО ДА ГЭТАГА ІДЗЕ. ТОЛЬКІ ЎЗГАДАЦЬ, ШТО ЁН КАЗАЎ, КАЛІ БЫЎ ГАЛОЎНЫМ КАНСТЭБЛЕМ...
О... МОЖА, СУНІЧНУЮ...
О...
НАПЭЎНА... АХ... НАПЭЎНА ГЭТА БЫЛА ІДЭЯ КРЫДЗІ. СПАДЗЯЕЦЦА, ШТО БУНТЫ ЎЗМАЦНЯЦЦА, І СЬЮЗЕН ДАЗВОЛІЦЬ ЯМУ НАБРАЦЬ СВАЮ ЎЛАСНУЮ АРМІЮ НОВЫХ БАНДЫТАЎ.
ВОСЬ ЖУЛІК.
НЕ, САПРАЎДЫ, НУ ЯК ЧАЛАВЕК ТЫПУ КРЫДЗІ МОЖА КІРАВАЦЬ ДЗЯРЖАВАЙ?
УЗНАВІЦЬ ЧЭМПІЯНАТ ПА ФУТБОЛЕ? ПУБЛІКАВАЦЬ ФОТА ГОЛЫХ БАБ НА ТРЭЦЯЙ СТАРОНЦЫ «ПАРТЫЙНЫХ ХРОНІК»? НЕ, ЁН...
НЕ!
НЕ ЗАРАЗ, КОНРАД.
ПАКУЛЬ ШТО МОЖАШ З'ЕСЦІ ШАКАЛАДКУ. ДАВАЙ, АДКРЫЙ РОЦІК. АДКРЫВАЙ...
НУ ВОСЬ, А АСТАТНЯЕ...
МОЖА БЫЦЬ, КАЛІ СТАНЕШ ЛІДАРАМ.


ЧЫКІ, МАЙСТАР КРЫДЗІ. РАНЕНЬКА ПАДНЯЛІСЯ НОНЧА?
ПРЫВІТАННЕ, ПРЫЯЦЕЛЬ. ЧОРТ, ВЕТРАНЫ ДЗЯНЁК ЛІДАР АБРАЎ ДЛЯ ШПАЦЫРУ, А?
Э-Э, ДЗЬМІ НЕ ДЗЬМІ, ШМАТ НЕ НАДЗЬМЕШ, І ЧО?
ХА-ХА, МОЖА, ТЫ І МАЕШ РАЦЫЮ, ПРЫЯЦЕЛЬ, МОЖА, ТЫ І ПРАВЫ...
УЗЯЦЬ, НАПРЫКЛАД, ГЭТЫ ПАРАД: ВОСЬ ПАГЛЯДЗЯЦЬ КЛІЕНТЫ, ШТО ПАВІННА ІМІ КІРАВАЦЬ...
У СЭНСЕ, ХТО ВЕДАЕ...
АСЦЯРОЖНЕЙ З АГАРОДЖАЙ, СОНІ.
ПРАБАЧЦЕ, СЭР.
БАДАЙ, ПАСЛЯ СЁННЯШНЯГА ЯНЫ БУДУЦЬ МАЛІЦЬ ЗА САПРАЎДНАГА ЛІДАРА.
ВЕДАЕШ, У ГЛАВЫ ПАЛЬЦА ШМАТ МАГЧЫМАСЦЯЎ. ДЗІЎНА, ШТО РАНЕЙ НІХТО НЕ СКАРЫСТАЎСЯ...
АГА, ПАЧЭКАЙ ТРОХА.
НЕ, НЕ ЗРАЗУМЕЮ, ЧАМУ МОЙ ПАПЯРЭДНІК НІЧОГА НЕ ЗРАБІЎ?
ЛІСА БРАВА ДВА, УАЙТХОЛ ЧЫСТЫ ДА ЧАРЫНГКРОСА...
ПАЦВЯРДЗІЦЕ, ШТО НА РЫЧМАНД-ТЭРАС ЧЫСТА, АДБОЙ.
ЯКІ ЁН БЫЎ, СТАРЫНА ОЛМАНД? ШЫКАВАЦЬ ЛЮБІЎ НАПЭЎНА?
НУ, МАІХ ПАЦАНОЎ ЁН ДАКЛАДНА НА ПРАЦУ НЕ ЗАПРАШАЎ, ТЫПА.
ШМАТ УЯЎЛЯЎ, ВУНЬ ЧО. ВОСЬ ЧО ВЫ МНЕ ТАК СПАДАБАЕЦЕСЬ-ТА.
Я ЧО КАЖУ, ВОСЬ ХТО НЕ ЎЯЎЛЯЕ НАОГУЛ НІ РАЗУ.
КАРАЦЕЙ, СПРАВЫ ЗУСІМ ПРЫПЁРЛІ, ПАКУЛЬ, АГА?
КАНЕШНЕ, ЯШЧЭ ПАБАЧЫМСЯ.



ТОЛЬКІ ПАГЛЯДЗІ... ВОСЬ ЯНА, СХАВАЛІ, НАЗЫВАЕЦЦА.
У СПАЛЬНЯХ ВА ЎСІХ ЧАЛЬЦОЎ ПАРТЫІ ЎСТАЛЯВАНЫ, НАВАТ У ЯГО!
А ЁН ЗДЗІЎЛЯЕЦЦА, ЧАМУ Я ЯГО НЕ ПАДПУШЧАЮ.
ЗАРАЗ, КАНЕШНЕ, ЯГО КАМЕРЫ АДКЛЮЧАНЫ.
І ВОСЬ ЁН СЯДЗІЦЬ, ЧАКАЕ ПАРАДА, А НА ЭКРАНАХ НЯМА НІЧАГОШАНЬКІ.
СЛЯПЫ ВУАЙЕРЫСТ, ХА!
ВОСЬ ЯНЫ, КОНРАД, ВОСЬ ТОЕ, ЧАГО ТАБЕ НЕ ХАПАЕ!
ШКАДА, ШТО ТЫ НЕ БАЧЫШ.
ТЫ НЕ ЎЯЎЛЯЕШ, ЯК ЦЯЖКА БЫЛО ПРАСУНУЦЬ ЯГО НА ЯКУЮ-НЕБУДЗЬ ПРЫСТОЙНАЯ ПАСАДА.
КАНЕШНЕ, РАШЭННІ БУДУ ПРЫМАЦЬ Я... ДЗЯКУЮЧЫ ТВАІМ БАЙЦАМ.
Я БУДУ ЯК ЭВА ПЕРОН. ТЫ ГЛЯДЗЕЎ «ЭВІТУ»?
«НЕ ПЛАЧ ПА МНЕ, АРГЕНТЫНА!»
ОЙ, ЗІРНІ-КА, НАРКОША...
ААА, НЕ ХАПАЙ. ГЭТА ТРАЎКА КАШТУЕ КУЧУ ГРОШАЎ.
ХОЧАШ ПАЧАСТАВАЦЦА – ЗАРАБОТАЙ.
ДЫК НЕ ПЫ-ЫТАННЕ.
ШО МАГУ, ТО МАГУ...


Э... ЛІДАР?
КАРТЭЖ ГАТОВЫ. МЫ МОЖАМ ВЫЕХАЦЬ У ЛЮБЫ МОМАНТ, ЯК ТОЛЬКІ СКАЖАЦЕ, СЭР.
ДЗЯКУЙ.
Я ВЫЙДУ НА СУСТРЭЧУ З НАРОДАМ ПРАЗ НЕКАЛЬКІ ХВІЛІН. ІМ НЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА ДОЎГА ЧАКАЦЬ.
АНГЛІЙ ВЫШЭЙ ЗА ЎСЁ.
Я ПРАБАЧАЮ ТАБЕ.


ХАДЖУ, ЛЫНАЮ ПА СВЕЦЕ, ХАДЖУ, ЛУНАЮ, ХАДЖУ, ЛУНАЮ...
РАЗВАЖАЦЬ, ЯК ЁН РАЗВАЖАЕ. І НОГІ ГЭТЫЯ... У СТАРАЖЫТНЫ ЧАС... АЛЕ КУДЫ? КУДЫ ЁН УШОЎ...
ЯК ЛІСІЦА Ў НАРУ, ЯК МЫШ У ШЧЫЛІНУ. ЁН ВЫДАТНА ХАВАЕЦЦА, АЛЕ ДЗЕ? ДУМАЙ, ЯК ЁН, ДУМАЙ, ЯК ЁН, ШТО ЁН СТАНЕ РАБІЦЬ? КУДЫ ЁН...
М-М-М?
КАНЕШНЕ.
КАНЕШНЕ!
ВІКТОРЫЯ
СТАНЦЫЯ ЗАЧЫНЕНА



ГЛАВА 7
VIКТОРЫЯ


СМЯЮЦЦА, МАШУЦЬ, УСЬМІХАЮЦЦА: НУ ХОЦЬ НЕ КЛЯНУЦЬ МЯНЕ.
АЛЕ ЧАМУ Я НЕ АДЧУВАЮ ДА ІХ НІЧОГА?
БО ТУТ НЯМА НІКОГА, АКРАМЯ МЯНЕ, САПРАЎДЫ? Я З ДЗЯЦІНСТВА ВЕДАЮ, ШТО ТОЛЬКІ Я АДЗІН РЭАЛЬНЫ.
ТОЛЬКІ Я І БОГ. НЯМА НІ ПРЫШЧА НА ШЫІ Ў КІРОЎЦЫ, НІ СМЯРДЗЮЧАГА СКУРАЗАМЯНЯЛЬНІКА, НІ НАТОЎПУ...
Я РАЗМАЎЛЯЮ СА СТВАРАЛЬНІКАМ ПРА ХЛОПЧЫКАЎ-НЕГРЫТОСАЎ І ПРА ГОЛЫХ МУЖЧЫНАЎ У ЛОЖКУ, ЯКІЯ ЛАПАЮЦЬ АДЗІН АДНАГО, ЛАПАЮЦЬ, ГЛАДЗЯЦЬ, ЛАПАЮЦЬ...
КАЛІ Я СЛАБЕЎ, МЫ РАЗМАЎЛЯЛІ.
Я РАЗМАЎЛЯЎ З БОГАМ, КАЛІ КАЛЕГІ СМЯЯЛІСЯ З МЯНЕ...
АЛЕ Я БЫЎ АДПОМШЧАНЫ: БОГ СТАЎ РЭАЛЬНАСЦЮ, УВАСОБІЎШЫСЯ Ў ФОРМЕ, ЯКУЮ Я МОГ КАХАЦЬ. КАЛІ Я ЎПЕРШЫНЮ ЎБАЧЫЎ ЯЕ ЭКРАНЫ, ЯЕ ВЫТАНЧАНЫЯ АБРЫСЫ...
НЕ ЖАНЧЫНА З РЭЗКІМ ПАХАМ ПОТУ І ВЫРАДЛІВЫМІ КУСЦІКАМІ ВАЛОССЯЎ, А НЕШТА ХАЛОДНАЕ, ЦВЁРДАЕ, ПАЧУЦЦЁВАЕ. МЫ КАХАЛІ АДЗІН АДНАГО, АЛЕ ПОТЫМ...
ПОТЫМ ЯНА ЗДРАДЗІЛА МНЕ. І НІЧОГА НЕ ЗАСТАЛОСЯ. ЦЯПЕР Я АДЗІН.
КАЛІ НЕ ЛІЧЫЦЬ ТЫХ, ХТО МАХАЕ ЗА ШКЛОМ. Я ПАСПРАБУЮ ПАКАХАЦЬ ІХ МАЦНЕЙ. ЯНЫ - УСЁ, ШТО Ў МЯНЕ ЗАСТАЛОСЯ.
ПАМАХАЦЬ ІМ У АДКАЗ? ГЭТА НЕ ПАВІННА ВЫГЛЯДАЦЬ ЗНАРОЧАСТЫМ ЦІ НЯШЧЫРЫМ, ГЭТА ЖЭСТ АД САМАГА СЭРЦА...
СПАНТАНЫ, ЯК І ІХ ЖЭСТЫ.
Я ЛЮБЛЮ ІХ. Я ПАМІРАЮ.
АНГЛІЯ НАЙВЫШЭЙ ЗА ЎСЁ.
НУ, ДАБРО... ЗРЭЖ ПА НАБЯРЭЖНАЙ ДА ЎАЙТХОЛУ І ЧАКАЙ ТАМ ТАЧКІ З ПАРТЮГАМАНАМ.
І ДАВАЙ ТРОХІ ПАВЕСЯЛЕЙ, НУ?


«ЯК ТЫ МОЖАШ КАЗАЦЬ, ШТО АДЗІНОЧКА...»
«І ШТО СОНЦА ДЛЯ ЦЯБЕ НЕ СВЕЦІЦЬ?»
«ДАЙ МНЕ РУКУ, Я ПРАВЯДУ ЦЯБЕ ПА ВУЛІЦАЗ ЛОНДАНА. Я ПАКУЖУ ТАБЕ ШТОСЬЦІ...»
«...І ТЫ ПЕРАДУМАЕШ».
ШТО Ж, МІСТАР ФІНЧ...
МЫ НАРЭШЦЕ СУСТРЭЛІСЯ.


МАХАЦЬ ЧАСЦЕЙ!
ДАВАЙЦЕ! ДЗЕ ДЗЕЦІ? ХТО-НЕБУДЗЬ ПРЫНЕС КВЕТКІ?
ТАК.
ТАК, НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА СТРАХ, БО ЁН НЕ МАЕ ЗНАЧЭННЯ, ЯК І ЎСЁ, ШТО ТЫЧЫЦЦА МЯНЕ.
ТАК, ХОЦЬ ЯНЫ ЗАБ'ЮЦЬ МЯНЕ, БО, КАЛІ НЕ, ЖЫЦЦЁ БЕССЭНСОЎНА.
ТАК, БО НАШЫ ЖЫЦЦІ СТРАЧАНЫ НА ВАШЫЯ БАЧАННІ, А БОЛЬШ У НАС НІЧТОГА НЕ БЫЛО.
ТАК, БО Я НЕ МАГУ ВЫНОСІЦЬ ТАГО, ШТО ВЫ З НАМІ ЗРАБІЛІ...
ТАК, БО МЯНЕ ВЯДЗЕ ГІСТОРЫЯ І НІШТО НА СВЕЦЕ МЯНЕ НЕ СПЫНІЦЬ...
ГЭЙ!
УСЁ Ў ПАРАДКУ. Я ЯЕ ВЕДАЮ. ЯНА ЧАЛЕЦ ПАРТЫІ. МОЖНА ПРАПУСЦІЦЬ.
ТАК, БО ТАКІЯ, ЯК ВЫ, ПРЫВЯЛІ НАС У ПЕКЛА, А ЦЯПЕР ВЫ КАЖАЦЕ, ШТО НАС ВЫРАТУЕ ТОЛЬКІ БОЛЬШ ЖОРСТКІ ЛІДАР.
СЮДЫ. Я ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО ЁН ГЭТА АЦЭНІЦЬ...
ТАК, БО Я АМАЛЬ ДАЙШЛА І ЎСЕ ЛІЧУЦЬ: «ВОСЬ НЕЙКАЯ ВАЖНАЯ ПОСТАЦЬ», А Я ЗУСІМ НЕ ВАЖНАЯ, АЛЕ СТАНУ ВАЖНАЙ...
СПЫНІЦЕ. Я ХАЧУ ПАРАЗМАЎЛЯЦЬ З МАІМ НАРОДАМ.
ТАК, БО Ў МЯНЕ БЫЛІ ЖЫЦЦЁ, МІР, ШЛЮБ І Я ШАНАВАЛА ГЭТА, А ВЫ НЕ...
Я ТАК РАДЫ...
ТАК РАДЫ ВАС БАЧЫЦЬ. ДАЗВОЛЬЦЕ ПАЦІСНУЦЬ ВАМ РУКУ...
ТАК, БО МЫ СУСТРАКАЛІСЯ РАНЕЙ ШМАТ РАЗОЎ І МОЙ ДЭРЭК ЗАГІНУЎ ДЗЕЛЯ ВАС, А ВЫ, БОЖА МОЙ, ВЫ НАВАТ НЕ ЎЗГАДАЛІ МАЙГО ТВАРА!
КАЛІ ЛАСКА... НЕ САРОМЕЙЦЕСЯ...
ТАК, ТАК.
ТАК!


А-А-А-А!
ТА-АК.
ЗБІРАЛІСЯ ЗАБІЦЬ МЯНЕ? АЛЕ ПАД ГЭТЫМ ПЛАШЧОМ НЯМА ЦЕЛА І КРЫВІ.
БО Я ЎСЯГО Ж ТА ІДЭЯ.
А ІДЭЮ КУЛЯЙ НЕ ВОЗЬМЕШ.
БЫВАЙЦЕ!


ОХ.
КРОЎ.
І ЎСЁ Ж ТАКІ
ЦЕЛА І КРОЎ.
Я ЗАБІЎ ЦЯБЕ,
ПАЧВАРА.
Я ЗАБІЎ
ЦЯБЕ!

